Год III. Сакавік № 3 (26)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я  
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!  
Занімай, Беларусь маладая мая,  
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 3.



Да гэтага нумару далучаем ілюстраваны дадатак.

*Просім пашырацъ «Шлях Моладзі» і прысылацъ падпіску (грошы)!*


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Сакавік 1931 г. | № 3 (26). |
| --- | --- | --- |

## Вясна народу.

*(25.III.1918 — 25.III.1931).*

Сусьветная вайна выклікала ў Расеі рэвалюцыю, а рэвалюцыя паваліла царскі трон і адчыніла дзьверы ад турмы народаў.

Пачуўшыся вольным, рваўся да будаваньня сваей Незалежнасьці, разам з другімі народамі царскай Расеі, і народ беларускі.

У 1917 г. у сьнежні месяцы, у сэрца Беларусі—Менск прыбылі з усіх куткоў Беларусі дэлегаты лікам да тысяч дзьвёх і пачалі радзіць над будучыняй Народу.

Дэлегатам гэтым шмат даканаць не ўдалося, бо бальшавікі разагналі кангрэс сілай аружжа. Кангрэс пасьпеў толькі прыступіць да разгляду справы самавызначэньня беларускага народу, справы будучага палітычнага строю Беларусі і выбраць Раду Кангрэсу назваўшы яе Радай Рэспублікі, якой і дар учыў далейшы лёс Беларусі ўзяць у свае рукі.

Рада Рэспублікі, выбраўшы беларускі ўрад, рашуча прыступіла да народнага будаўніцтва.

Працу беларускага ўраду спынілі немцы, якія занялі Менск — сталіцу Беларусі. Аднак, ня гледзячы на перашкоды з боку ворагаў Беларусі, Рада Рэспублікі даканала вялікай народнай справы — яна 25.III.1918 году Беларусь абвесьціла незалежнай, самастойнай краінай.

Ворагі аднак перамаглі Беларусь. Рада Рэспублікі і яе Урад мусілі эміграваць заграніцу. Беларусь урэшце была падзелена між Польшчай і бальшавікамі ў Рызе ў 1921 годзе.

Такім чынам Ідэал беларускай Незалежнасьці астаўся толькі Ідэалам, народ здабыць яго сабе ня змог. Аднак дзень 25.III.—дзень абвешчаньня Незалежнасьці народу,— стаўся сьвятам усяго беларускага народу, калі верныя сыны яго аднаўляюць сваю народную веру, любоў і надзею, калі праглядаюць памылкі сваей працы дзеля вольнасьці роднай Беларусі, калі аднаўляюць свае пастановы ў кірунку здабыцьця найвышэйшага свайго Ідэалу— Незалежнасьці Народу. Словам, дзень 25.III — гэта дзень вясны нашага Народу.

Ад гэтага Вялікага Дня сяньня мінула трынаццаць гадоў. За гэты час на цяжкой дарозе барацьбы за самастойнасьць Народу многія сыны Беларусі ўпалі, злажыўшы жыцьцё сваё на аўтар дарагой Бацькаўшчыны, многія адышлі на бок ад працы, перапалохаўшыся цяжару яе, многія зьбіліся з пуцьця і пашлі дарогамі фальшывымі, да мэты не вядучымі, а многія Ідэал Незалежнасьці Народу і сусім здрадзілі.

На зьмену адышоўшым і на падмогу трываючым пры барацьбе за вольны сьцяг Беларусі прыходзе беларуская моладзь. Ува ўсіх куткох Беларусі яна прабуджаецца, арганізуецца і рвецца да працы дзеля здабыцьця шчасьця Народу, ягонай Незалежнасьці. Вясна Народу — Ідэал Незалежнасьці разгравае сэрцы беларускай моладзі, пабуджае маладыя яе сілы і чарам сваім забірае моладзь гэту на верную, бязстрашную, любую службу.

Так, моладзь беларуская — гэта тая сям'я сакаліна, якая Ідэал Вясны Народу мае ажыцьцёвіць, мае адзець яго ў цела і кроў Народу. Яна даканаць гэта павінна і даканае сапраўды!...

## СЛАЎНАМУ ПЕСЬНЯРУ ЯНЦЫ КУПАЛЕ...

Прымі, пясьняр непараўнаны,
Ад слоў маіх пасільны дар:
—Бо ў думцы нат' сваей загнаны—
Нясу яго на Твой Аўтар!
  Сьлязамі горкімі дарожкі
  Жыцьця я свойга палівау
  І думку горкую нядолю
  Я ў жальбах рана высьпяваў!
Як быццам чуў сваей душою
Трагічны, сумрачны канец,
Я лятуцеў, я жыў Табою,
Вялікі, слаўны наш, Пявец!
  Аднак прышло. Рука злачынца
  Змахнула Ідэал сьвяты —
  І крык пануры із гасьцінца
  Панёсься ў сьвет на ўсе канцы!
Але глухімі асталіся
Да крыку ў сьвеце „залатым“
І толькі „там“ мацней спляліся
Кайданы з лоскатам нямым!
  А кроў Твая, нам дарагая,
  Абмые нам да Волі шлях;
  Зарніца ўзыйдзе залатая...
  На буйных... змучаных палях!

**М. Нядоля.**

# У 15-ыя ўгодкі сьмерці Цёткі.

5-га лютага мінула 15 гадоў ад сьмерці (5. II. 1916) беларускай паэткі і дзяячкі Алёізы Пашкевічанкі (па мужу Кейрыс), пісаўшай свае творы пад мянюшкай Цёткі.

Радзілася Цётка ў беларускай дробна-шляхоцкай каталіцкай сям'і ў 1876 г., Васіліскай гм., Лідзкага пав. Спачатку вучылася яна ў Вільні, дзе (1901 г.) скончыла гімназію, пазьней (1902-1903) на вышэйшых курсах Лесгафта ў Пецярбурзе, і ўрэшце ў Кракаўскім унівэрсытэце на гуманістычным аддзеле. У Кракаве (1908-1909) Цётка прабывала як палітычная эмігрантка, крыючыся ад вока расейскай царскай паліцыі з прычыны сваей беларускай нацыянальна-рэвалюцыйнай дзейнасьці.

Сваю літэратурную, грамадзкую і рэвалюцыйную працу пачала Цётка будучы студэнткай.

Літэратурныя творы былі сьпярша выданы заграніцай у 1906 г. у васобных кніжыцах: „Скрыпка беларуская" і „Хрэст на свабоду", друкаваныя гражданкай і лацінкай.

Друкавала так-жа Цётка свае творы і ў часопісях, як „Наша Ніва" (1908-1910), „Маладая Беларусь" (1912-1913) і „Лучынка" (1914).

Уся літэратурная творчасьць Цёткі выразна дзеліцца на два пэрыяды: на пэрыяд рэвалюцыйны (1904-1905), у якім пясьнярка з вялікай сілай выступае проціў царскага ўціску падняволеных народаў і працоўных масаў, — і на пэрыяд нацыянальны (1906-1916), калі Цётка ўсю душу сваю пасьвячае справе беларускага народнага адраджэньня і вызваленьня.

Але бадай больш, як працай літэратурнай, займалася Цётка працай грамадзкай.

У пэрыядзе рэвалюцыйнага захопленьня бачым Цётку пры ідэйнай працы сярод работнікаў: на зборках, нарадах, на вечах у ролі сумленнага працаўніка і гарачага прамоўцы; у пэрыядзе ўзноў пазытыўнай нацыянальнай працы спатыкаем Цётку пры арганізаваньні беларускага тэатру ў Вільні, пры пісаньні першага беларускага лемэнтара, пры закладаньні беларускіх пачатковых школ; урэшце, падчас сусьветнай вайны, спатыкаемся з Цёткай, як сястрой міласэрдзя, якая служа людзкой нядолі і адначасна вядзе беларускую работу, усьведамляючы нацыянальна жаўнераў.

Ня чужыя былі такжа для Цёткі і праблемы рэлігійныя, наскалькі яны былі зьвязаны з жыцьцём, з беларускімі грамадзка-народнымі ідэаламі. Цікавы, напрыклад, яе пагляд на справу рэлігійнай уніі на Беларусі. Будучы ў Львове (1906-1907) падчас сваей прымусовай эміграцыі, Цётка між іншым так піша ў Пецярбург да праф. Бр. Эпі-

мах-Шыпілы:... „Цяпер жыву я ў Львове, з украінцамі-русінамі і ўніятамі завяджу знаёмства... Скора вышлю кніжкі аб уніі для акадэмікаў духоўных на Ваш адрас.. Вы, шаноўны прафэсар, закіньце перад імі слова за унію... Унія для беларусаў была-б крэпкай падпорай, бо лацінскае духавенства ў нас на нішто“.

Так, Цётка, як бачым яе ў літэратурных творах і ў грамадзкай дзейнасьці, — гэта сапраўды вялікая беларуская душа. Яна пару гадоў была захапіўшыся рэвалюцыйнымі імкненьнямі. Паводзе няслушнага ў нас разуменьня — быць рэвалюцыянэрам — гэта тое, што стацца соцыялістам-марксыстам, а сяньня — камуністым, гэта тое, што справы народу свайго падпарадкаваць работніцкай, фабрычнай клясе, у нашых варунках у сэнсе беларускім бадай цалком вынарадоўленай, гэта ўрэшце тое, што цалком адрачыся беларускіх нацыянальных ідэалаў. Вось-жа вялікая і бязьмерна патрыётычная душа Цёткі і гэтую недарэчнасьць разумела і ей не паддалася. Уся рэвалюцыйнасьць Цёткі ніколі ня была самамэтай, а была ў ёй заўсёды толькі складовай, ня істотнай часткай яе народных імкненьняў і ідэалаў. Рэвалюцыйнасьць Цёткі — гэта прадусім мэтода барацьбы за вызваленьне беларускага народу.

Калі-ж урэшце шукаць уплываў ідэёвых на Цётку і духовага яе сваяцтва з кім у беларускай літэратуры, дык мусім затрымацца на Фр. Багушэвічу. Як грамадзка-патрыётычны зьмест твораў Цёткі і форма іх, таксама назоў зборніка „Скрыпка Беларуская“ на падабенства Багушэвічавых Смыка і Дудкі — выразна нам паказваюць, што Цётка — гэта родная і годная дачка патрыархі беларускага адраджэньня — Фр. Багушэвіча. Рожніцца яна ад свайго духовага бацькі, што цалком прыродна і зразумела, большай энэргіяй, энтузыязмам, жывейшым і выразьнейшым нацыянальным матывам. У гэтым асаблівасьць Цёткі і ў гэтым, дзякуючы ей далейшы этап беларускай адраджэнскай думкі, зроджанай Багушэвічам.

А. Сакалінскі.

---

# Адкуль жыцьцё на зямлі.

Найлягчэй паўстаньне жыцьця можна было-б выясьніць тэорыяй самародзтва, г. зн., што жывыя творы могуць паўставаць у адпаведных абставінах з някывой матэрыі.

І што гэта тэорыя зварачывала на сябе ўвагу ўжо ў сівой мінуўшчыне, — могуць сьведчыць розныя грэцкія старадаўныя тэорыі. Адны з іх выводзілі жыцьцё з вады,

з акеанаў, другія з агню і г. д. Пазьней таксама, бо ў III веку перад Хр., спатыкаемся з арыгінальнымі доказамі вялікага грэцкага філёзафа Арыстотэля. Цьвярдзіў ён, што паветра мае жыцьцёвае цяпло — Псыхэ, якое мела ажыўляць матэрыю: мелася гэта найлепш адбывацца пры фэрмэнтацыі і гніцьцю згодна з формулай— „Corruptio unius — generatio alterius“ — распад аднаго — нараджэньне другога. Паводле Арыстотэля рыбы і жабы творацца з мулу і бузы, мятлікі — з пылу, а некаторыя на'т з агню, чарвякі і паразіты — у нутры свайго жывіцеля і г. д. Вышэйшыя аднак істоты, як напр. чалавек, могуць—паводле таго-ж Арыстотэля—радзіцца толькі з бацькоў. Думка гэта ў сярэдніх вякох была настолькі распаўсюджаная і прынятая, што падаваліся на'т рады, як штучна можна стварыць жаб, мышэй, скарпіонаў і інш. Паводле сьціслых даных(!) можна было гэтыя творы атрымаць з камяшкоў і мэталаў.

Тэорыю гэту падтрымалі, якбы пацьвярдзілі, новыя даныя навуковыя, здабытыя пры помачы мікраскопу, які зладзілі каля 1610 г. браты Янсэн, а які ўлепшыў галанскі вучоны Лэвэнгок. Мікраскоп, павялічываючы прадметы ў пару сот разоў, адкрываў новы сьвет. Ён паказаў новых, простым вокам ня прыметных, твораў, якія надта мала, як здавалася, розьніліся ад частачак няжывое матэрыі. Самародзтва трыумфавала. І хоць некаторыя вучоныя зьбівалі гэтую тэорыю, датрывала яна аднак аж да паловы XIX ст. г. Верылі ў яе такія людзі, як прыроднік Бронн, філёзоф Шопэнгауэр і другія вучоныя. У апазыцыі да самародзтва былі таксама выбітныя людзі, як напр. нямецкія прыроднікі Шванн, Шрэдэр і Душ. Два апошнія рабілі такую спробу: пераварыралі мяса, а наступна да гэтага навару прапускалі паветра праз вату, якая была фільтрам на зародкі. Пасьле гэтага навар гэны з мясам мог стаяць і не псавацца. Зьбівала гэта сусім, як здаецца, самародзтва, аднак у 1858 г. вучоны француcкі Пушэт выступіў з цьверджаньнем, што арганічную матэрыю ніякім чынам ня можна ўсьцерагчы ад гніцьця, г. зн., што там заўсёды павінны паўстаць гнільныя бактэрыі.

Высьветліць гэту справу аканчальна ўзяўся слаўны вучоны француcкі Пастэр (1822—1895).

Зьвярнуў ён перадусім увагу на працэс фэрмэнтацыі. У сваіх клясычных экспэрымэнтах даказаў, што фэрмэнтацыю вызываюць бактэрыі, жывучыя ў паветры, а не зрадзіўшыяся ў судзіне экспэрымэнтаванага матэр'ялу. Напр. фэрмэнтацыю віна вызываюць спэцыяльныя дражджавыя бактэрыі, якія ў месяцы ліпні насядаюць на вінаград. І калі шчыльна абвязаць у чэрвені, перад тым як насядаюць зародкі, — ягады вінаграду ватай, як гэта рабіў Пастэр, то нармальна вырасшыя вінаграды ня будуць фэрмэнтаваць.

Шкляныя кольбы Пастэра з перагатаваным булёнам і мясам, напоўненыя перачышчаным праз пізыксыліновую вату паветрам, стаялі цэлыя месяцы і не псаваліся, бо не знаходзіліся там ніякія зародкі. Пры гэтых экспэрымэнтах аказалася, што некаторыя жывучкі выдзержываюць гарачыню больш як $+100^0$ С, аднак, пагатаваныя даўжэй, гінуць. Выказаў таксама Пастэр, што ў паветры, вадзе і на зямлі знаходзяцца мільярды розных бактэрыяў. Заразныя з гэтых бактэрыяў пераносяць, рэч ясная, хваробы і пошасьці, напр. халеру.

І так зьбіў Пастэр раз назаўсёды шумную тэорыю самародзтва, за што атрымаў заслужаную нагароду Парыскай Акадэміі Навук. Знача, самародзтва ў прыродзе ня існуе. Жыцьцё паўстае толькі з жыцьця.

Адкуль-жа ўзялося само жыцьцё? — навука не даець яснага адказу. Адны вучоныя кажуць, што мы ня ведаем, другія маўчаць і прыслухоўваюцца, а можа дзе хто аб'ясьніць гэту тайну, трэція ўрэшце, апёршыся на навуцы і рэлігіі, даходзяць да пракананьня, што жыцьцё—ад Найвышэйшай Істоты на сьвеце, ад Бога. **Я. Малецкі.**

# Літэратурны аддзел.

* * *

Зямля каханая!
Ты чуеш, як я цябе люблю!
Ты — ўсё! Я — твой пясьняр...
Песьні вясьняныя!
Вас сонцам шчодра абальлю —
Кіну зямлі, як дар...
Радасьць жаданая!
Абвей з канца ў канец зямлю —
Хваляй вясны удар.

**Хв. Ільляшэвіч.**

ТРЫЯЛЕТ.

Месяц плыў ў вышыні серабрысты
Над бліскучае рэчкі шнурочкам.
Была ціхая, зорная ночка.
Месяц плыў ў вышыні серабрысты.

Ўсё ў прыродзе нярушна заснула,
Толькі рэчка як днём плескатала,
Месяц плыў ў вышыні серабрысты
Над бліскучае рэчкі шнурочкам.

**В. Шкодзіч.**

## ДА ЗАБАЧЭНЬНЯ ЗІМКА!

Зімка, зімка, кінь з вясною
Ты ўжо жартаваці:
Ў адным годзе двум лютым,
Ведай, ня бываці.
Хоць трашчыш па сьценах, плюце
Ты яшчэ у ночы,
А мароз пад дванцаць стопняў
Аж зьліпае вочы;
Ты скаванымі трымаеш
Рэчкі ды вазёры
І на шыбах вышываеш
Дзіўныя узоры...
Ды дарма: з вясной змагацца
Ты ужо ня зможаш,
Са-дня на дзень толькі ў ночы
Можа патрывожыш.
Бо ў поўдзень паглядзі, як
Сонейка высока,
І вясна ўжо не на жарты
Стала вабіць вока.
Шпак, жаўрочак, на'т, казалі,
Кніга прыляцела.
Скора, скора ад нас пойдзеш,
Каб і не хацела.
Дык уходзь, бо шмат з табою
Бачылі мучэньня!
Ты абрыдла нам, як рэдзька,
І... да забачэньня! П. Продухо.

## ЭХ, КАБ МНЕ КРЫЛЬЛЯ!..

Эх, каб мне крыльля свабоднае птушкі,
Каторых няволя ня зможа зьвязаць!
Я узляцеў-бы над Край Беларускі,
Каб усіх на змаганьне склікаць.

Крыльляў размахам і быстрым палётам
Лятаў-бы, склікаў-бы загнаных братоў,
Будзіў-бы, ахвоціў да роднай работы,
Якую зачаці я сяньня гатоў.

Узьляцеў-бы высока, дзе хмары павісьлі
І сонца праменьні скрываюць ад нас,
Я асьвятліў-бы ўсе здрадныя мысьлі
І хмары туману разьвеяў-бы ўраз.

Ня даўся-б — каб ворагі рукі скавалі,
Ад працы ўстрымалі мяне,
Ня даўся-б, каб ў сьцены каменны загналі,
Стараўся-б зачатае кончыць раней,

З высока—прастору тады ўсяму сьвету
Сказаў-бы, што там Беларус
Паўстаў не на жарт, а проста на тое,
Каб скінуць няволі прымус.

**Канарко.**

ЗУБР.

Зубр—зьвярына ёсьць дзікая,
Із пароды ён быка,
Цёмна-рыжы, —масьць такая,
Галава дык вяліка
Зубр прыгожы і рухавы,
Есьць галіны і траву;
Перад надта вялічавы,
Горда ставіць галаву.
Ў Беларусі зубр вядзецца
Да цяперашніх часоў
І ня дзіва, што завецца
„Беларускім" ён зубром.

**А. Жук.**

# Удава.

Ужо пайшоў трэці гадок, як бедная Сьцёпчыха асталася ўдавою з двайма малымі дзяцьмі — хлопчык і дзяўчынка. Гаспадарку мела незавідную: гоньцаў двое зямлі, хату старэнькую і парасётка маленькае, што гадавалася каля рук. З гэтай гаспадаркі не магла яна пракарміць дзяцей, мусіла хадзіць да людзей працаваць—калі была праца, а калі не —то жабраваць прыходзілася.

Сваякі, якія былі — забыліся яе. Праўда, некалі, як жыў муж і добра зарабляў, працуючы ў цагельні, дык тады і сваякоў і братоў і сёстраў находзіла кожнае сьвята, а цяпер — хаця каб хто нос паказаў! Няма з кім пагаварыць, парадзіцца, пабядаваць — мусіць адна ўсё перажываць.

Сьцёпчыха толькі аднаго чакала — каб сын яе троху больш падрос і каб магла тады аддаць яго да якой школы вучыцца: хоць пад старасьць мо' трошкі адпачыла-б і не патрабавалаб зьбіваць чужыя парогі. Дзеткі яе вельмі былі разумныя і добрыя, ня гледзячы на тое, што і слыху над імі ня было, бо маці вечна ня стыкалася з домам. Жылі яны, як галубкі, і нігдзе не хадзілі да другіх дзяцей; хлопчык быў большы і троху разумнейшы; ён заўсёды расказваў сваей сястрычцы баячкі ці часамі і здарэньні, якія яму прышлося бачыць на свае ўласныя вочы. Вось так і праходзіў іх дзяціны час. Гэтага маленькага хлопчыка ўсё цікавіла. Бывала пойдзе да свайго суседа-фэльчара і прыглядаецца, як ён леча чалавека, і часта ў яго запытае:

— Дзядзька, скажы, ці доўга ты вучыўся лячыць людзей?

— А што-ж, сынок, можа і ты хочаш вучыцца лячыць чалавека?

— О, яшчэ і як хачу, бо мая мама заўсёды хварэе, кашляе і ня мае зашто схадзіць да дохтара, а каб я ўмеў— вось і лячыўбы яе.

Прышоўшы да хаты, заўсёды маці цьвердзіў, што як толькі троха падрасьце, дык пойдзе вучыцца людзей ля-

быць разгледжаная дэклярацыя англійскага прэм'ера Мак-Дональда ў справе англійска-індускіх адносінаў.

**Ліга Народаў** закончыла ўжо сваю зімовую сэсію, у часе якой разглядалася нямецкая скарга на Польшч. Пастанаўленьне Лігі Народаў задаволіла нямецкія жаданьні.

**Украінскі мэмор'ял** у справе адносінаў польскіх уладаў да ўкраінцаў і ў справе пацыфікацыі ў Галіччыне перадаены Камітэту трох, які зложаны з прадстаўнікоў Англіі, Італіі і Норвэгіі. Камітэт гэты зьбярэцца ў Лёндыне прад весьнянай сэсіяй Лігі Народаў і разгледзіць гэны мэмарыял, а пасьля перадасьць яго Лізе Народаў.

**У Гішпаніі і Партугаліі** ізноў заносіцца на рэвалюцыю.

**На ўсім сьвеце** пануе вялікі гаспадарчы крызіс і налічаецца больш як 15 мільёнаў асоб безработных.

**У Францыі** ізноў ўрадавы крызіс. Урад сэн. Стэга падаўся ў адстаўку. Новы ўрад стварыў сэн. Лаваль, у склад якога паміж іншым увайшлі Брыян, як мін. загран. спраў, і б. прэм'ер Тард'е, як мін. зямельных спраў.

У С.С.Р.Р., калі верыць у тое, што пішуць газэты ўсяго сьвету, вельмі цяжка жыць. Цяжар гэты пераважна даецца ў знакі сялянству.

## Усячына.

**У Даніі** на 3 мільёны жыхараў ёсьць 3 мільёны кароў, 5 мільёнаў сьвіней і паўмільёна коняй.

**Цікавыя сернікі.** Аўстрыйскаму інж. др. Рінгэру ўдалося зрабіць цікавы новы сернік, які можна 600 разоў даўжэй паліць як цяперашні звычайны. Сернік гэты зроблены з такой самай масы, як галоўка у цяперашнім серніку, з дадаткам якогась матэр'ялу, пры помачы якога можна беспрарыўна запаліваць і гасіць яго.

**511 багачоў — мільянераў.** Паводле апошніх падлічэньняў у Амэрыцы ёсьць 511 асоб, якіх даходы даюць 1 мільён даляраў.

**Дрэва з прад 15 мільёнаў лет.** У Канадзе выкапана з пяску дрэва, якое паводле апініі геолёга паходзіць з прад 15 мільёнаў гадоў, г. зн. з тае эпохі часу, калі фармавалася наша зямля.

**100 тысяч праступнікаў.** Амэрыканскі Сэнат пастанавіў выслаць з граніц Зл. Шт. Амэрыкі ўсіх чужынцаў, якія калінебудзь былі за што караныя. У сьпісе гэтым знаходзіцца 100 тысяч асоб.

## Наша Пошта.

Кс. Пралату Др. Ан. Около-Кулаку. № 7 „Шляху Моладзі" выслалі, № № 4 і 11 за 1930 г. ня можам выслаць, бо яны сканфіскаваны.

Кс. Прафэсару Др. К. Кулаку. За прысланае шчыра дзякуем.

С. Жалюбчыц[illegible] спаўвяем.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

**С. Пяюну.** За пажаданьні шчыра дзякуем. Грошы на „Шлях Моладзі“ просім прысылаць толькі на адрас Рэдакцыі, бо йначай ня можам мы іх атрымаць.

**Бэйнару, Дубіне, Даргелю, Пабяржыну:** „Шлях Моладзі“ высылаем і чакаем падпіскі.

**Б. Бабарыку.** За прысланае дзякуем, календарыкі выслалі.

**Ю. Навіцкаму і С. Атрахімовічу.** „Шлях Моладзі“ высылаем Вам акуратна, дамагайцеся на пошце, просьбу спаўняем.

**М. Казушчыку ў Францыі.** Два календарыкі і „Шл. Моладзі“ Вам выслалі, просім пісаць карэспандэнцыі з тамашняга жыцьця.

**Карчэўскаму.** За прысланае дзякуем, скарыстаем, просьбу споўнілі.

**М. Нядолі.** Верш атрымалі, дзякуем, пастараемся надрукаваць. Просім не забываць.

**В. Козячу.** „Шлях Моладзі“ высылаем і чакаем падпісной платы. Паштовы пераказ на перасылку грошай у рэдакцыю купіце на пошце, бо рэдакцыя іх не вышлае.

**Я. Садоўскаму.** „Шлях Моладзі“ Вам высылаем акуратна, дамагайцеся на пошце.

Кс. П. Г. Памагчымасьці просьбу спаўняем, дзякуем.

**Навіцкаму.** „Шл. Моладзі“ высылаем Вам акуратна, дамагайцеся на пошце.

**М. Бяздольнаму.** Вершы і адказ атрымалі, выкарыстаем, дзякуем.

**Дык-Дзему.** Верш Ваш ня можам надрукаваць з прычын цэнзуральных.

**Асіповіцкаму.** Матэр'ялы і адказы на анкету атрымалі. Карэспандэнцыю Вашую зьмесьцім у наступным нумары, а так-жа далей будзем друкаваць Вашы вершы. Вельмі цешымся, што Вы зьбіраеце ахвяры на „Шлях Моладзі“. Грошы можаце пераслаць нават па пошце на адрас Рэдакцыі.

**Маладому.** Карэспандэнцыю Вашу перадалі ў Рэд. „Беларускай Крыніцы.“

**Бярозцы.** Вершы, адказ і пісьмо атрымалі, дзякуем аканчальны адказ дамо Вам пісьмом.

Э. Аніську. Пісьмо і верш атрымалі, дзякуем, „Шлях Моладзі“ высылаем.

**Зайку.** Верш і адказ атрымалі, дзякуем.

Грошы атрымалі ад: Кс. К. Кулака, Дубейкаўскага па 5 зл., Пазьняка Андр., Кс. Авт. Дуброўскага па 3 зл., Сінкевіча Альбіна, Собота Алекс., Белюка Яна, Гапановіча Язэпа Чэрняка Аўг., Мікалая Лігута, Сьвірыда П., Сахарчука Авт., Эўстахы Базар, Ромашка Лук., Цьвечкоўскага П. па 2 зл.; Вінцукевіча М. 1 зл. 50 гр.; Зыгалка М., Пупіна Ігн. Панасэвіча Каст. і Кондрата па 1 зл. Усім шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі“ пась[illegible]

# Ілюстраваны дадатак да „Шляху Моладзі“ № 3 (26).



Янка Купала, найвялікшы беларускі паэт-прарок, які змушаны быў камуністычным тэрорам да самагубства.



Прафэсар Ігнатоўскі, быўшы прэзыдэнт Беларускай Акадэміі ў Менску, які пакончыў з сабой самагубствам, ня могучы перажыць камуністычнага тэрору.





Алёіза Пашкевіч — Цётка, беларуская паэтка, ад сьмерці якой (†1916) мінула сёлета 15 гадоў.

Вясна ідзе,



буслы лятуць!



Памёршы нядаўна нямецкі канцлер др. Мюлер.



Др. Суніла, прем'ер новага фінляндзкага ўраду.



Перад Вялікаднем заўсёды вельмі шмат людзей адведвае гроб Хрыста. На фатаграфіі бачымо працэсію праваслаўных жыхароў Балканкага паўвоўстрава на дарозе ў Ерузалім.

чыць. Сьцёпчыха гладзіла яго па галоўцы і плачучы казала:

— Эх, маё ты міленькае дзіцятка, каб бацька жыў, то можа з часам і выўчыў-бы,а так, дык і надзеі няма;няма скуль грошай узяць; сваякі, хоць і багатыя — ўсе выракліся; людзі вучаць сваіх дзетак, дык яны ж маюць вун вялікія маёнткі, або магазыны ці фабрыкі, а мы, — што маем?—нічога!

— Слухай, мама, гэта ня штука з грашмі вучыцца, а вось штука без грашэй выўчыцца на якога дохтара, інжынера, або нават хоць на вучыцеля. Пачакай мама, як толькі я падрасту, — пайду ў сьвет, а можа гдзе і найдуцца добрыя людзі і будуць мяне патроху вучыць, а як выўчуся, тады ім вярну грошы і прыеду да мамы і будзем жыць ня так, як цяпер! Сьцёпчыха галавою паківала, ані слоўца не прагаварыла з жалю; ей думалася, што гэта гутарка пустая, яна нават у сьне ня сьніла, што яе сын так добра і верна прарочыць сваю будучыню...

У адну нядзельку пайшла маці да касьцёла Богу памаліцца і вось убачыла вывешаную вялікую паперу на слупе, на якой было напісана: „прымаюцца маленькія дзеткі-сіроткі ў прытулак.“ Прачытаўшы гэта, складаючы памаленьку па літарцы, — пайшла яна па імшы да ксяндза прасіць, каб прыняў яе дзетак у гэны прытулак. Ксёндз згадзіўся; сказаў, каб толькі даставіла ўсе патрэбныя паперы. Сьцёпчыка ўсё абяцала даставіць разам з дзеткамі сваімі.

Прышоўшы да хаты, на другі дзень павяла яна сваіх дзетак у прытулак. Пакінула іх там, а сама варочалася з вялікім смуткам дамоў.

Жыцьцё ёй мілым дома ня было: ані з кім загаварыць, ані каго куды паслаць — адна асталася, як дзікая груша ў полі. Ну, але нічога, час праходзіць, дзеткі патроху падрастаюць і вучацца добра.

І вось, калі ўжо мінула пятнаццаць гадоў ад сьмерці мужа, яе сынок вучыўся ў унівэрсытэце на дохтара, а дачка ня кончыла гімназіі і выйшла замуж за вучыцеля, памагала маці і брату. Цяпер у Сьцёпчыхі аж пасьвятлела ў вачох. Яна чакала таго сьветлага і ясьненькага дзянёчка, калі яе сынок будзе дохтарам і прыедзе дамоў і будзе людцоў лячыць, а ўсе суседзі будуць ёй завідываць і казаць: — якая бедная была кабета, а такі-ж выўчыла.

Калі кончылася дваццаць гадоў па сьмерці мужа, Сьцёпчыха дачакала павароту свайго дохтара да хаты. Прыехаўшы, ён вельмі ўсьцешыўся, што застаў яшчэ маці жывую...

Забраўшы матку з сабою, паехаў сын у горад, гдзе лячыў людзей і добра меўся. Цяпер маці яго магла адпачыць троху, але ня доўга, — за два гадкі адышла ад яго на векі... Усе суседзі і сваякі завідывалі яму і няраз хацелі прысьці да яго ў госьці, але сумленьне ім не пазваляла...

**Янка Ваўштолскі.**

**Вольная Трыбуна.**

# Адказы і ўвагі на пытаньне: Якімі літарамі маемо друкаваць „Шл. Моладзі".

*Зъмяшчаючы адказы і ўвагі ў справе так важнага пытаньня, якімі літарамі маемо друкаваць „Шлях Моладзі", паважаным аўтарам даем поўную свабоду выказываць іх думкі.* РЭДАКЦЫЯ.

X.

Лацінка ці гражданка?

Вось табе на!... падумаў не адзін з чытачоў „Шляху Моладзі", глянуўшы на анкету рэдакцыі. Людзі неахвотна бяруцца адказваць на пытаньні ці собскія, у сувязі з жыцьцём унутраным, ці з нейкімі пытаньнямі практычнага вонкавага характару, ня надта лёгка адгукнуцца і на звонку зробленае ім пытаньне — калі гэткі ці іншы адказ пакінуўбы нам вывады, адносна якіх мы ня зусім пэўны; ня ведаем яшчэ сяньня, які фронт быў-бы найлепшы адносна тых вывадаў; палохаючыся „рэвалюцыйных мамэнтаў, жджэм ахватней інэртна, пакуль жыцьцё само не накіне вываду. Да факту рэальнага, існуючага чалавек хоцькі ня хоцькі прывыкае і датарноўваецца.

Справа азбукі не абстракцыйная тэорыя, якую мы можам разглядаць, сьпірацца горача, каб на заўтра забыцца, ці сказаць сабе, што за год-два пяць вярнуся зноў да гэнага пытаньня. Азбука—гэта практыка жыцьцёвая. Пэўнае становішча ў гэтай справе выклікае патрэбу практычных мерапрыемстваў у школе, царкве, жыцьці культуральным, палітычным і г. д.

Вось чаму не адзін з чытачоў, убачыўшы сам назоў анкеты, хутчэй заплюшчыў вочы, калі не закляў паціхеньку. Хай сабе іншыя адказваюць і пішуць, падумаў, „гэта павінна найбольш рупіць філёлёга, лінгвістага, літэратара, настаўніка, духоўніка, палітыка ці яшчэ там каго..." Вось-жа бачым, што, каб яшчэ адну часінку рахаваў на пальцах, каго павінна рупіць справа азбукі, дык нарахаваў-бы ўсіх людзей, што зьяўляюцца галінамі, галіначкамі, лісточкамі, ці камлём цьвёрдым ці зноў карэньнямі шырокімі — таго вялікага, магутнага дрэва — народу.

Так! азбука гэта пытаньне нацыянальнае, гэта ня толькі справа веравызнаньня, палітычнае арыентацыі, культурнага нахілу ці выключна толькі вузка-практычных сяньняшніх і заўтрашніх мэтаў.

Гадоў блізу дваццаць шырокія масы беларускія пыта-

лі сябе самых, рабілі сходкі, а пасьля галасаваньнем выявілі волю, у якой вопратцы хацелі мець „Нашую Ніву“. І тады і сяньня справа ў першую чаргу была выклікана рэальным мамэнтам. Не хапала грошаў пры нашай галіце агульнай, каб друкаваць і кірыліцаю і лацінкаю адзін і той самы нумар газэты. Рэдакцыя і тады і сяньня хацела падыйсьці найбольш аб‘ектыўна, не хацела нічога нікому накідываць і таму пытала: „як хочаце?“

Дваццаць гадоў таму назад плебісцыт выйграла кірыліца. „Нашая Ніва“ друкавалася пад канец толькі кірыліцаю. А чаму? Ці там мы бачылі нейкія мяркаваньні высокія, успаміны мінуўшчыны ці думкі аб сувязі з усходам ці захадам? Гэта былі важныя, цяжкія аргуманты за і проці, толькі не аргуманты гэныя перамаглі лацінку, а тое, што ўсе беларусы маглі карыстацца друкаваным словам кірыліцаю, а вялікая большасьць не магла карыстацца лацінкаю.

Значыцца, справа ясная. Плебісцыт толькі рашыў пастанову, якую можна было прадугледзіць. Нашыя беларускія ўмовы жыцьцёвыя і грашовыя магчымасьці радыкальна не перамяніліся да апошняе пары і „Шлях Моладзі“, хочучы абхапіць шырокую масу народу ў Заходняй Беларусі, мусіць папытацца, у якой вопратцы хочуць яго бачыць. Кажу, і гэта трэба падчыркнуць моцна, у якой вопратцы, бо сутнасьць справы астанецця тая самая, душа, нутро чалавека не залежыць зусім ад формы вонкавае. Яшчэ ня раз, а шмат калі будзем пытацца сябе, пытацімуць нас: „кірыліца ці лацінка“ у розных плошчах жыцьця. І дзеля гэтага вельмі добра, што сяньня шмат хто пакалупаецца ў сумленьні і вырашыць свае адносіны. Доўга яшчэ мы ня мецімем магчымасьці практычна вырашыць становішча, бо ня маем вонкавае формы нацыянальнага жыцьця—дзяржавы. Дзяржаўнасьць свая — гэта зарука разьвязкі канкрэтнае такіх праблемаў.

Ня буду гаварыць аб значэньні культурным, узгадаваўчым, гістарычным кірыліцы ці лацінкі, хаця гэта дзеля нас пытаньні надта жывыя і поўныя зьместу. Абмяжуюсь коратка толькі да вонкавае стараны пытаньня. Ня ведаю, які будзе плебісцыт у чытачоў часопісі. Зусім незалежна ад гэтага трэба нам глянуць на тэрытарыяльнае распаўсюджаньне органу моладзі. Ня маючы ў руках статыстыкі рэдакцыі, можна аднак сьмела казаць, што плошча распаўсюджаньня надта абмяжована. Паасобныя маленькія астраўкі на заходніх рубяжох нашае тэрыторыі, маса на ўсходзе, бліжэй да радавае граніцы. Вялікая маса беларуская каталіцкая ня мае фактычнае магчымасьці карыстацца друкам кірыліцаю. І тутака няма гутаркі аб веравызнаўчых паглядах, ці настроях і нахілах палітычных ці іншых. Гэта про-

стая фізычная немагчымасьць прачытаць сваё роднае слова. Ня ведаем кірыліцы і кончана, чытаць ня можам. Бачыў я сам моладзь на вёсцы ў Беласточчыне, Сакольшчыне ды Горадзеншчыне, якая прасіла кніжак, газэт і вучылася з вялікаю натугаю азбукі новае, бо ведала толькі лацінку. У школе лёгка навучыцца абедзьвюх азбук і мы мусім ведаць іх, гэта наш прынцып, якога трэба моцна дзяржацца. Паза школай, ня маючы добра наладжанае зашкольнае асьветы, арганізацыяў моладзі, надта цяжка здабыць умеласьць чытаньня бяз ніякага кіраўніцтва. Бо толькі падумайце — як і калі?

Дык для масы каталіцкае, якая надта пакрыўджана пасьляваеннаю культурнаю беларускаю палітыкаю, а адначасна, якая выносіць на сабе найбольшы націск і чужое культуры і палітыкі на ўсіх фронтах, — орган моладзі трэба друкаваць лацінкаю.

Цяпер глянем на частку праваслаўную ў Зах. Беларусі.

Я надта неахвотна карыстаюся гэтым крытэрыям падзелу. Адцемлю толькі, што дзякуючы ўмовам сучасным крытэрыюм гэны мае сэнс нэгатыўны выключна.

Маса праваслаўная нараўні з каталіцкаю ня мае свае нацыянальнае школы. Моладзь на вёсцы найбольш дзейная, жывая йшла праз школу польскую. Частка яе навучылася азбукі лацінскае, служачы ў арміі на ладжаных тамака прасьветных курсах. Дык, значыцца, маса праваслаўная шчасьлівейшая, калі гэтак можна казаць, за каталіцкую — ведае і лацінку і кірыліцу. Практычна можа карыстацца абедзьвюма азбукамі.

Вывад лёгічны адгэтуль даволі просты: хочучы абхапіць шырокія масы, у сяньняшніх абставінах трэба друкаваць „Шл. Мол." лацінкаю.

Папытацца аднак трэба, як адгукнецца тая частка большая чытачоў, якія прывыклі да свае часопісі з кірыліцаю, ці ня будзе ў іх варожасьці, заладозранасьці, ці ня маюць яны нейкіх прынцыповых благіх паглядаў на лацінку? Пытаньне гэта паставіць можна толькі дзеля таго, каб кожны ўбачыў, што палохацца гэткіх неспадзевак няма што. Калі далёка мы ад надта скромных ідэалаў узгадаваньня нацыянальнага, дык праца колькінаццаці апошніх гадоў зрабіла тое, што форму ад зьместу ўмее вёска адзяляць добра.

Ня спыняючыся над графічнаю ці эстэтычнаю стараною, магла-б рэдакцыя зрабіць спробу вучыць тых, якія ня мелі роднае школы, увёўшы аддзел асобны ў часопісі, ці паасобныя артыкулы кірыліцаю, калі большая частка нумару будзе друкавацца лацінкаю. Была-б, значыцца, спроба сынтэзы, хаця і чыста фармальнае ўсходнясьці з заходнясьцю, калі ўжо азбука рэпрэзэнтавала-б два сьветапагляды.

Канкрэтная афармоўка пойдзе лёгка, яе накінуць патрэбы жыцьця і голас чытачоў, трэба толькі скрануцца з месца і не адкідаючы, а толькі часова пакідаючы прынцыповыя староны пытаньня азбукі, кіравацца патрэбаю дня — шукаць сувязі з шырокімі масамі, каб іх узгадаваць.

Канчаючы, адцеміць трэба неабходнасьць спакойнае, шырокае распрацоўкі тых усіх праблемаў культурных, гістарычных, веравызнаўчых, псыхікі нацыянальнае, якія стульна злучаны з карыстаньнем азбукаю, аднак гэта ўжо іншая справа. **Др. Ст. Грынкевіч.**

---

# Куток для спорту.

## Бокс (біцьцё на кулакі).

Гэты спорт ёсьць вельмі стары.

Сьмела можна сказаць, што ўжо першабытны чалавек мусіў аддацца яму інстынктоўна, бо гэта ёсьць нішто іншае, як прыродная барацьба аднаго чалавека з другім, калі ён яшчэ ня знаў розных да гэтага прыладаў.

У працах Гомэра біцьцё на кулакі ўжо выяйляецца, як абмежаваная правіламі барацьба, дужа сходная з навачасным боксам. Старадаўныя Грэкі не абгараджывалі боксэраў, як гэта робіцца цяпер, гэтак званым рынгам, не рабілі падзелу на цяжкую, сярэднюю і лёгкую вагу боксэраў; ня было ў барацьбе перарываў, як гэта ёсьць цяпер, а біліся без супачынку, аж да перамогі. У часах Олімпійскіх іграў прыкмячаецца ўжо, што боксэры мелі рукі, завінутыя рамянём, даўжынёю каля трох мэтраў з мэтай усьцерагчы суставы рук ад акалечаньня.

За часоў Плятона ўжо, апрача ўспомненых раменяў, увайшла ў моду боксэрская рукавіца. Яна была цяжкая, зроблена з цьвёрдага раменя; мэтай гэнай рукавіцы было скалечаньне праціўніка, што Плятон раіў, як добры спосаб проціў расьпешчанасьці тагачаснага грамадзянства.

У Рымлянаў боксэрская рукавіца была яшчэ горшая: ёй былі дадзены жалезныя гузікі і навет гвозьдзі.

Сяньнешняя рукавіца ёсьць мягкая, выпханая валосьсем, або чым іншым ня цьвёрдым. Праціўнік лічыцца пераможаным тады, калі ўпадзе на зямлю і ў працягу 10 сэкундаў ня будзе магчы ўстаць.

Сама барацьба цяпер ёсьць сьцісла абмежавана правіламі, якія лагодзяць гэты, так грубы даўней, спорт. Ёсьць два спосабы боксу: ангельскі і францускі. У першым можна біцца толькі рукамі, а ў французкім, апрача гэтага, дазваляецца біцьцё і нагамі.

Бокс—гэта ёсьць сьціслa мужчынскі спорт. Ён выраб-ляе адвагу, л`ўкасьць, пэўнасьць сябе і ёсьць карысны ў практычным жыцьці, як самаабарона. Нікаторыя, пера-важна слабыя, ня любяць гэтага спорту, называючы яго грубым, але ён не такі ёсьць грубы, як гэта здаецца рась-пешчаным „маміным сынком.“ Здаровы мужчына пераважна будзе любіць бокс, які пазваляе выладаваць баявы інстынкт, што ёсьць у кожнага мужчыны.

Людзі нават і кволыя могуць цьвічыцца ў боксе, гэта ім выйдзе на карысьць, але толькі яны не павінны браць удзелу ў боксэрскіх завадках. Баксавацца на завадках можна толькі зусім здаровы чалавек і дарослы. Небясьпечна біцца на кулачкі таму, хто мае не здаровае сэрца, або лёгкія. Дзеля гэтага кожны, хто хоча паважна аддацца боксу, павінен насамперш пайсьці да доктара і парадзіцца, ці можа гэты спорт упраўляць **Ул. Казлоўшчык.**

# Лісты.

## СЎМНЫЯ НАВІНЫ.

**В. Слабада,** Маладэчанскага пав. У часе калядных сьвятаў на вечарынцы ў в. Слабада, Забрэскай гм., Валожынскага пав., забіты каламі і да таго падобнымі прыладамі Міхась Смолік з суседняй вёскі Крыўска, Крэўскай гм., які быў праславіўшыся сваімі рознымі авантурамі, сядзеў за забойства і быў выпушчаны на волю з пазбаўленьнем правоў.

У апошні час ён быў сышчыкам і з гэтай прычыны здабыў сабе шмат ворагаў, якія падабраўшы падобны момэнт пазбавілі яго жыцьця. У выніку сьледзтва арыштавана 6 асоб, якія і дагэтуль сядзяць, як падазроныя ў забойстве.

За некалькі дзён цазьней у недалёкай вёсцы Забалоцьце гэтай-жа гміны знайшлі пакончыўшых з жыцьцём ахвяраў няшчаснага каханьня: Зыдора Шаўлюка і Альжбеты Канаповічанкі, родам з в. Слабада, служыўшай у гэтай вёсцы. Шпак.

## ШТО ДАЕ БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА.

**Вёска Баяры і Вялікая Ліпа,** Нясьвіскага пав. Што значыць і што зможа даць беларуская школа нам у сянняшнія часы — можна бачыць з ніжэйпаданага. Школа ў нас утраквістычная, але дзякуючы аграмадным высілкам мяйсцовага беларускага вучыцеля (адзін на тры клясы і пяць аддзелаў), які зьяўляецца і кіраўніком гэтай школы,

навука йдзе ня згорш. За адзінаццаць год вучэньня ўжо ня мала вышла з яе моладзі, пазнаўшай свой народ і з большага сваю гісторыю. Міла так-жа адзначыць, як на вечарынах і танцах загінула расейскае: „как,“ „разьве,“ „понімаете,“ а так-жа польскае: „цо, цо,“ „пшэпрашам,“ а іх мейсца заняла, як і трэба было, родная мілагучная мова. Дык чэсьць табе дарагая моладзь, а так-жа і кіраўніку, які і надалей засявае ў родных сэрцах зярняты дабра, любві і справядлівасьці.
Баярац.

## СУМНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

**Ахопава**, Навааградзкага пав. Жывём мы ўсе, як птушкі ў клетцы... Ведама, што нашаму брату селяніну аніводная душа чалавечая не спагадае. Мы ўсе спадзяёмся, што нам пасьвятлее, але ўсё далёка да гэтага. Калі каторы селянін і мае розум і дабіваецца асьветы, дык знаходзяцца ворагі, якія нападаюць на яго, як мухі на жывёлу. І так застаецца наш селянін у цемры і як сьляпы блудзіць па дарозе, просячы кавалка хлеба.

Але мы, моладзь сялянская, ня будзем спаць, будзем рупіцца, каб у нашу хату цёмную заглянула сонца прасьветы. Будзем выпісываць розныя кнігі і газэты і чытаць. Будзем дабівацца роднай школы, каб нашыя меншыя браты не калечыліся!

Ня вучоны я, але душою чую, што наш родны друг— гэта гражданка і веру, што рэдакцыя „Шляху Моладзі“ не заменіць яе на чужую для нас лацінку. А. У—та.

## НЕ КІДАЙМО СВАЙГО і НЕ ХВАТАЙМОСЯ ЗА ЧУЖОЕ

**Браслаўскі пав.** Апошнім часам, асабліва сярод нашых дзяўчат даецца заўважыць імкненьне да чужой польскай культуры і літэратуры.

Вось-жа я хацеў-бы зьвярнуць увагу сваіх суседак, што калі чалавек вучыцца і хоча штось ведаць, то раней ён пазнае сам сябе і сваё дабро. Таксама і нам трэба рабіць, трэба раней пазнаць сваю культуру, сваю літэратуру. Бо і што-ж з нас былі-б за людзі, як мы ня знаючы самі сябе і свайго дабра гналіся-б за чужым. Наша-ж літэратура ёсьць вельмі прыгожая і багатая, дык і чытаймо перадусім свае кніжкі і газэты.

**Г. Пецюкевіч.**

# Хроніка

**13-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.** У прыпадаючыя сёлета 13-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні за прыкладам мінулых гадоў ладзіць урачыстае сьвяткаваньне. У гэтым годзе сьвяткаваньне разложана на два дні — 22-га сакавіка і 25-га: 22-га сакавіка а г. 10-ай у касьцеле св. Мікалая кс. Ад. Станкевіч адправіў набажэнства, падчас якога кс. В. Гадлеўскі сказаў глыбока прадуманае казаньне, а г. 12 мін. 30 у царкве сьв. Мікалая сьвяшчэньнік Кушнёў адправіў малебен і таксама сказаў адпаведнае да сьвяткаваньня казаньне; 25-га-ж сакавіка ў салі дому на Завальнай вул. № 1 адбылася ўрачыстая акадэмія, у часе якое прачытаў рэфэрат інж Ад. Клімовіч, пасьля рэфарату былі: песьні і дэклямацыі. Уваход на акадэмію вольны.

**Акт абвінавачаньня.** Рэдактар „Шляху Моладзі" Мар'ян Пяцюкевіч і выдавец Янка Багдановіч атрымалі акт абвінавачаньня, у якім пракуратура закідае ім праступніцтва, прадбачанае 51 і 129 арт. К. К., якога яны быццам дапусьціліся у № 4 (14) „Шл. М.," які ў сваім часе быў сканфіскаваны.

**Лекцыі.** 8-га і 15 га сакавіка, у памешканьні Беларускага Інстытуту Г. і К. у Вільні др. Ст. Грынкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „Народныя ўніверсытэты."

14-га лютага ў Бел. Студэнскім Саюзе прачытаў лекцыю студ. Янка Шутовіч на тэму: „студэнскія рэфлексыі."

**Рэколекцыі.** 16, 17 і 18 у Вільні ў касьцеле сьв. Мікалая адбыліся рэколекцыі для беларускае каталіцкае моладзі.

**З выдавецкае нівы.** Апошнім часам вышлі з друку наступныя новыя беларускія кніжкі: „Палітычныя і грамадзкія кірункі ў мінуўшчыне і сучаснасьці" — выдавецтва „Шляху Моладзі," цана кніжкі 50 гр.; „Pieršyja łastaŭ-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

kі", сцэнічны твор, — выд. Бэл. Інстытуту Г. і Культуры, цана кніжкі 30 гр. А так-жа выйшаў № 5 месячніка „Родная Мова," навуковая часопісь, № 1 „Заранкі," дзіцячае часопісі, № 1 новае часопісі „Жаночая справа" і брашурка, у якой надрукавана соймавая прамова пасла Ф. Ярэміча. Прамова гэта спачатку была сканфіскавана праз Віленскае старостава, але пасьля захадаў пасла Ярэміча ў вышэйшых адміністрацыйных уладах канфіската была зьнята.

## З украінскага жыцьця.

70-я ўгодкі сьмерці Тараса Шэвчэнкі. Сёлета ў месяцы сакавіку прыпадаюць 70-я ўгодкі сьмерці вялікага ўкраінскага паэта, прарока Тараса Шэвчэнкі. Угодкі гэтыя ўсё ўкраінскае грамадзянства сьвяткавала ўрачыста. Украінскі Студэнскі Гурток у Вільні з гэтае прычыны 7-га сакавіка ладзіў канцэрт.

## З літоўскага жыцьця.

5-я ўгодкі існаваньня літоўскіх скаўтаў. Сёлета прыпадаюць 5-я ўгодкі існаваньня літоўскіх скаўтаў у Вільні. З гэтае прычыны нядаўна было наладжана адумысловае сьвяткаваньне. Мы з свае стараны жадаем літоўскім скаўтам пасьпеху ў іхнай працы.

## З Польшчы.

Зьмена канстытуцыі. Урадавы Клюб Б.Б. падаў у Сойм праект зьмены канстытуцыі. Праект гэты Сойм перадаў для разгляду соймавай канстытуцыйнай Камісіі. Зьмена канстытуцыі для беларусаў нічога добрага не прынясе.

Перагаворы. Нядаўна газэты падалі весткі, паводле якіх польскія ўрадавыя кругі вялі перагаворы з украінскімі пасламі ў справе апошніх падзеяў у Галіччыне. У часе гэтых перагавораў прадстаўнікі ўраду дамагаліся ад украінцаў, каб яны забралі назад сваю скаргу паданую ў Лігу Народаў. Бязумоўна украінцы на гэта не згадзіліся і перагаворы сарвалі.

## З заграніцы.

— У С.С.Р.Р. у Маскве ў пачатку гэтага месяца адбыўся VI зьезд Саветаў. Зьезд гэты выбраў новы ўрад С.С.Р.Р., на чале з Молатавым; дагэтулешнюю палітыку Сталіна прызнаў правільнай. Новы-ж урад нічога лепшага ня прыносе.

— У Францыі апошнім часам безрабоцьце, таксама як і ў іншых дзяржавах, прымае вялікія разьмеры і ўжо нават гавораць аб тым, каб высяляць з Францыі работнікаў, прыбыўшых туды з заграніцы.

— Паміж Італіяй і Францыяй апошнім часам заключаны марскі дагавор, задачай якога ёсьць рэгуляваць марскія збраеньні Францыі і Італіі.

— У Індыі паміж Гандім, праваднікомі індусаў, і віцэ-каралём англійскім наступіла згода.

— У Нямеччыне ў Бэрліне памёр канцлер Мюллер.

# Усячына.

ГОРЫ ЗЬМЯНЯЮЦЬ СВАё МЕСЦА. У Францыі ў ваколіцы Чэмбэры ўзгорак займаючы каля 40 гэктараў зямлі зьмяняе сваё месца, пасоўваючыся з быстратой 150 гэктараў у гадзіну, завальваючы па дарозе дамы і дрэвы; рака, якая нядалёка плыла, зьмяніла сваё карыта, людзі змушаны ўцякаць. У ваколіцы Гюрдо таксама зачала рушыцца гара, так, што жыхары тамашнія змушаны ўцякаць.

ЗЕМЛЯТРАСЕНЬНЕ. У Баўгарыі і Югаславіі ізноў прайшло землятрасеньне, прыносячы вялікія страты.

44 МІЛЬёНЫ ЭКЗЭМПЛЯРАЎ ГАЗЭТ. Паводле справаздачы за 1930 год у Амэрыцы што дзень выходзіць 44 міл экзэмпляраў штодзенных газэт.

ПАЖАР У ПАМЕШКАНЬНІ ТРОЦКАГА. У Турцыі ў памешканьні, дзе цяпер пражывае Троцкі, нядаўна выбух вялікі пажар, у часе якога згарэла многа гістарычных дакумантаў.

НА ВЫШЫНЮ 9850 МЭТРАЎ на аэрапляне ўзьляцела амэрыканская лётчыца Рут Нікольс і гэтым пабіла дасюлешні рэкорд, які не перавышаў 9.000 мэтраў

36 РАЗОЎ БЫЎ МІНІСТРАМ. Цяперашні францускі міністр загранічных спраў Бріян сьвяткуе 25-лецьце свае міністэрскае працы. За гэты час ён быў 36 разоў міністрам.

# Наша Пошта.

М. Нядолі. Вершы атрымалі, дзякуем і просім не забываць.

Канарку. Вершы атрымалі, як бачыце, адзін з іх друкуем.

П. Прудо. За прысланае дзякуем, карыстаем, вершы Вашы ніштo як бачыце, друкуем.

Ан. Бедны. За добрыя словы і за прысланае шчыра дзякуем „Ш. М.“ на прысланы адрас высылаем.

Янку Машары. Што да непаразуменьня Вашага з сваім сусе- дам у справе „Шляху Моладзі“, то можам запэўніць толькі Вас, што ана далей хіба-што яго больш ня будзе, бо ад гэтага нумару „Шл. М.“ будзем высылаць ўжо не па картах прэнумэраты, як да гэтага часу, а па адрасу кожнага падпішчыка. Ваш сусед павінен зьвярнуць Вам Вашу часопісь, бо мы яму не высылалі, дзеля таго, што ён нашым не зьяўляецца падпішчыкам. Просьбу Вашу спаўняем. Вельмі пажадана было-б, каб Вы залажылі Гурток Інстытуту, дык вітаем Вашу думку і жадаем пасьпеху.

М. Раманчыку. Просьбу спаўняем і „Шлях Моладзі“ высылаем. Калі Вы думаеце адкрыць у сябе чытальню, то можа лепш раней залажыце Гурток Інстытуту Г. і К., а тады лепш Вам залажыць пры гуртку чытальню; гэтакім спосабам лягчэй Вам пойдзе праца арганізацыйная і прытым будзеце мець помач ад Цэнтральнага Ураду Інстытуту ў сэнсе кніжак і парад.

Э. Сталь. За прысланае дзякуем, скарыстаем і просім не забываць надалей.

К. Амокевічу. Дужа цешымся, што Вы першыя да нас зьвярнуліся і што будзеце пашыраць нашу часопісь. „Шлях Моладзі“ будзем высылаць.

Цікаваму з Дзлятыч. Карэспандэнцыі Вашае ня можам зьмясьціць, бо Вы не падалі свайго праўдзівага прозьвішча і адрасу ля ведама Рэдакцыі.

Петрашку П. „Шлях Моладзі“ і календарык на 1931 г. Вам высылаем. Падпіска на год на нашу часопісь каштуе 2 зл. Каталёг вышле Вам кнігарня „Пагоня“. Чакаем падпіскі.

А. Віншу. За прысланае дзякуем, скарыстаем, просім не забываць.

П. Брылевічу. За добрыя словы і ўвагі шчыра дзякуем і просім надалей не забываць.

Ю. Сяргіевічу. З прысланых матэрыялаў пастараемся скарыстаць. 1000 экз. кніжак, як „Шум баравы“, прыблізна можа каштаваць 700 зл.

Падпіску на „Ш. М.“ атрымалі: ад Саўкі М., В. Чаплінскага, П. Продухі, кс. Высокінскага, М. Пасюты, Чудачанкі Я. Зімніцкага, Пудакевіча, Я. Альхомовіча па 2 зл.; Я. Прытыцкага, 'Э. Крэчкі, Макара, І. Кішкі па 1 зл. Усім шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі« пасылаем.